СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.26, 19.57, 13.31;
Віцебск — 6.14, 19.49, 13.35;
Магілёў — 6.15, 19.46, 13.31;
Гомель — 6.13, 19.43, 13.30;
Гродна — 6.40, 20.14, 13.34;
Брэст — 6.45, 20.10, 13.25.

МЕСЯЦ:
Маладзік 3 красавіка.

ІМЯНІНЫ:
Гаўрылы, Ганны, Алы, Ларысы, Васіля;
Дзіянісія, Радаслава.



# ЗВЯЗДА

8 КРАСАВІКА 1992 г.
серада, № 72 (21850)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.


## РОЗГАЛАС

### СІМВОЛІКА ГАРАДСКОГА МАШТАБУ

ПОЛАЦК. Камісія па культуры і адукацыі гарсавета разгледзела пытанне аб старажытным гербе горада. Вырашана вярнуць Полацку гістарычны сімвал у яго дакладнай выяве, аб якой паведамілі вучоныя з Інстытута гісторыі АН Беларусі — на блакітным полі трохмачтавы карабель з разгорнутымі ветразямі, вада пад ім срэбная. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што менавіта гэты герб выкарыстоўваўся ў XVI стагоддзі і яшчэ раней. Да таго ж высветлілася, што выявы пазнейшага паходжання (напрыклад «Пагоня», якая выкарыстоўвалася ў Полацку ў часы Расійскай імперыі) гербам горада не з'яўляюцца (тым больш што «Пагоня» стала сімвалам усёй Беларусі). Таму і вырашана было іх адхіліць.

### СА ШМАТПАРТЫЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Адзін з кіраўнікоў партыі камуністаў Беларусі Віктар Чыкін у размове з карэспандэнтам грамадска-палітычнай радыёперадачы «Пазіцыя» адзначыў, што з былой КПБ у ПКБ перарэгістравалася ўжо каля дзесяці тысяч чалавек, а суполкі новай партыі створаны ва ўсіх раёнах Мінска. Па словах Віктара Чыкіна, уступаюць у ПКБ і новыя члены — першымі навабранцамі сталі студэнтка і работніца Камітэта па тэлерадыёвяшчанню. Чыкін з аптымізмам глядзіць у будучае і спадзяецца, што, нягледзячы на інтрыгі Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь (выкліканыя быццам бы «рукой Масквы»), ПКБ абавязкова будзе зарэгістравана і колькасць яе членаў значна павялічыцца.

## ФАРМАЛЬНА ЎСЁ НАРМАЛЬНА. А ПА СУТНАСЦІ?

Як памятаюць чытачы, на папярэдніх пасяджэннях сесіі дэпутаты настаялі на тым, каб у парадак дня была ўнесена справаздача Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за перыяд з чэрвеня 1990 года па цяперашні час. Сама пастанаўка гэтага пытання сведчыць аб тым, што дзейнасць Прэзідыума, пастаянных камісій, іх старшынь і ўвогуле вышэйшых службовых асоб не ў поўнай меры задавальняе народных абраннікаў. А з другога боку, у нас склалася думка, што дэпутаты хацелі даведацца ад Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча аб яго бачанні будучыні заканадаўчай і выканаўчай улады рэспублікі, прынцыпах яе пабудовы, магчымых рэформах у гэтым напрамку, а калі браць шырэй, то і аб контурах сацыяльна-эканамічнай палітыкі суверэннай дзяржавы, яе прыярытэтах.

Але гэтыя спадзяванні дэпутатаў, а можа, і тых, хто рыхтаваў справаздачу, увайшлі ў супярэчнасць з канцэпцыяй даклада. На яго змест і будову наклалі адбітак адпаведныя артыкулы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якімі вызначаны як правы, так і абавязкі Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Вось якія тэмы і праблемы знайшлі адлюстраванне ў справаздачы: скліканне і падрыхтоўка сесій; каардынацыя дзейнасці пастаянных камісій; ажыццяўленне кантролю за выкананнем Канстытуцыі; арганізацыя народных абмеркаванняў законапраектаў; кадравыя пытанні; вырашэнне знешнеэканамічных пытанняў; друкаванне законаў і, нарэшце, становішча ў рэспубліцы, важнейшыя пытанні палітычнай дзейнасці. Тут якраз той выпадак, калі зададзеная форма не паспрыяла зместу. Справаздача Прэзідыума будзе надрукавана поўнасцю, а зараз толькі адзначым, што выразы накшталт «Прэзідыум забяспечваў інфармаванне», «у мэтах удасканалення каардынацыі», «Прэзідыум асаблівую ўвагу ўдзяляў», «Прэзідыум садзейнічаў, надаючы важнае значэнне», «пэўную работу Прэзідыум праводзіў», «Прэзідыум прымаў меры» і г. д., і да т. п. наўрад ці маглі ўсхваляваць дэпутатаў.

Дарэчы, тут мы, напэўна, выказаліся не зусім дакладна. Справаздача ўсхвалявала-такі дэпутатаў, але эмоцыі атрымаліся адмоўныя.

Гэта адчувалася нават у пытаннях да Станіслава Шушкевіча, кароткіх ацэначных заўвагах. Большасць дэпутатаў, гаварыў Віктар Ганчар, чакалі справаздачы іншага змястоўнага ўзроўню. У той час, працягваў Мікалай Крыжаноўскі, як рэспубліку захліснула хваля безуладдзя, калі распаўсюдзіліся факты карупцыі, раскрадання дзяржаўнай маёмасці, увага ўдзелена больш другарадным пытанням, а не гэтым балючым, прагрэсіруючым. Мала пералічыць законы, пастановы, падсумаваць, колькі прававых актаў выдадзена на душу насельніцтва і вывесці сярэдняе арыфметычнае ў параўнанні з іншымі дзяржавамі СНД — важна стварыць атмасферу, каб законы працавалі. Гэтага не дабіцца, падкрэсліваў Алег Трусаў, калі не арганізаваць кантроль за выкананнем уласных рашэнняў.

Дзяржчыноўнікі, працягваў Анатоль Лебядзько, сабатуюць заканадаўчыя акты, але хто з іх па ініцыятыве Прэзідыума адхілены ад займаемай пасады?

Большасць пытанняў, як відаць нават з гэтага пераліку, раскрывалі тую праблему, якая даўно акрэслена: у рэспубліцы не ўдаецца стварыць моцную і дакладную выканаўчую ўладу. Таму і адрасуюцца літаральна ўсе да Старшыні ВС, хоць шмат што знаходзіцца ў кампетэнцыі іншых дзяржаўных органаў. Але паколькі выканаўчыя структуры працуюць слаба, значыць, у гэтым ёсць пэўная віна і вышэйшага прадстаўнічага органа — Вярхоўнага Савета, яго Прэзідыума.

І вось тут, на нашу думку, крыецца вострая супярэчнасць, якую і акрэслілі ў выступленнях Дзмітрый Булахаў, а затым і Уладзімір Станкевіч: дзеянні, падыходы Старшыні ВС ахопліваюць паўнамоцтвы большыя, чым кіраўніка парламента, але меншыя, чым Прэзідэнта. Інакш кажучы, рамкі паўнамоцтваў Старшыні, ці, як зараз гавораць, спікера парламента меншыя за межы той адказнасці, якую мы прад'яўляем першай асобе ў нашай дзяржаве.

Можа, менавіта гэтым і выклікана просьба Станіслава Шушкевіча аб прадастаўленні Прэзідыуму большых паўнамоцтваў? Гэты тэзіс успрыняты дэпутатамі даволі крытычна (не выкарыстоўваюцца нават тыя, якія ў Прэзідыума ёсць— з-за недасканалай арганізацыі работы, нежадання ці няўмення нацэліць людзей на выніковую працу!).

Тыя з дэпутатаў, хто паспеў выступіць у спрэчках, з занепакоенасцю адзначалі гэту дамінанту, акрэсліўшы яе як цягу да аўтарытарызму, да замыкання кардынальных праблем на асобе Старшыні, а тым самым да зніжэння аўтарытэту Вярхоўнага Савета. У камісіях працуюць у большасці сваёй кампетэнтныя, кваліфікаваныя людзі, гаварыў Міхаіл Качан, а вось належнай аддачы няма, бо Старшыні не ўдаецца знітаваць іх, згуртаваць даверам. Станіслаў Станіслававіч пастаянна падкрэслівае, гаварыў Уладзімір Станкевіч, што яго каманда — гэта ўвесь Вярхоўны Савет, аднак на практыцы з гэтай «камандай» не надта раяцца. Калі фарміраванне «каманды» Ельцына, Назарбаева, Краўчука азнаменавалася з'яўленнем неардынарных асоб, то ў нас гэтага не адбылося. І не таму, лічыць дэпутат, што іх няма, а з-за адсутнасці абстаноўкі, якая дала б магчымасць ім праявіцца. Ці не гэтыя абставіны змусілі старшыню Пастаяннай камісіі па заканадаўству Дзмітрыя Булахава заявіць аб цяжкім, балючым для яго рашэнні — адстаўцы з пасады, на якой ён так ярка праявіў сябе — не толькі ў Мінску, але і падчас работы па выпрацоўцы дакументаў СНД? Між тым моцнае акружэнне толькі памнажае сілу любога лідэра, і ў абстаноўцы даверу, узаемапавагі такой камандзе многае па плячы.

А на практыцы паняцці калегіяльнасць, галоснасць нярэдка прытушоўваюцца. Прапанова аб змяншэнні колькасці членаў Прэзідыума, па меркаванню У. Станкевіча, толькі аслабляе фактар стрымлівання цягі да аўтарытарызму.

Як відаць, абмеркаванне справаздачы ішло востра, часам эмацыянальна. Думаецца, гэта і карысна. Як сказаў Міхаіл Качан, трэба баяцца тых, хто крытыкуе толькі за спінай, а ў астатні час заглядвае ў рот кіраўніку. Працяг спрэчак вырашана перанесці на аўторак — тэкст справаздачы дэпутаты атрымалі толькі напярэдадні сесіі, і многія проста не паспелі яе асэнсаваць. Думаецца, гэты час пойдзе на карысць усім — улягуцца эмоцыі, прыбавіцца разважлівасці, канструктыўных рашэнняў.

**Людміла РЫЖАНКОВА, Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

## Аграрнае пытанне: прапанавана ўзяць быка за рогі. Невядома—каму

### *Нататкі з пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

Па колькасці запрошаных, тэлекамер, «юпітэраў», па ўспацела-напружаных тварах старшынь аблвыканкомаў адчувалася, што на чарговым пасяджэнні Прэзідыума павінна адбыцца нешта надзвычайнае. З даведак, раздадзеных прысутным, стала ясна, што будзе і каго гэта датычыць. А іменна: Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, некаторых раёнаў Мінскай.

Традыцыйную па сутнасці і форме справаздачу старшыні Камітэта па зямельнай рэформе М. Русага аўдыторыя выслухала насцярожана. Няма сэнсу падрабязна на ёй спыняцца. Там і там дрэнна, вось там крыху лепш, тут не жадаюць падпарадкоўвацца, тут проста спяць, фермераў столькі, а трактараў гэтулькі, — у цэлым здавальняюча.

Яшчэ свежыя, дэпутаты і члены Прэзідыума атаку на старшыню камітэта пачалі без прамаруджання.

— Вы кажаце: не выконваюць пастанову. Колькі ўзбуджана спраў па падобных фактах?

— Былі справы. Дакладна не магу сказаць.

— Што азначае: «гарантам фермера выступае райсавет»?

— Упраўленне сельскай гаспадаркі пры банкрутстве фермера ўсе страты бярэ на сябе.

— Дазвольце! А ці захоча яно? Да таго ж, няма такога закона, каб менавіта райсавет выступаў гарантам.

Далей — у тым жа духу і той жа танальнасці. Спадару Русаму прыходзілася несалодка, і такія адносіны да сябе ён, на мой погляд, справакаваў сам. На такіх пасяджэннях карціну трэба маляваць поўную і аб'ектыўную. І, па магчымасці, ведаць усё. Напрыклад, колькім людзям адмоўлена ў атрыманні зямлі. Ці — колькі фермерскіх гаспадарак можна лічыць таварнымі. Дарэчы, апошнюю лічбу з дапамогай С. Шушкевіча высветліць-такі ўдалося. Аказалася — працэнтаў 35. Гэта значыць, што 35 працэнтаў гаспадарак маюць у сваім распараджэнні каля 50 гектараў зямлі. А што з астатнімі? Можна меркаваць, у бліжэйшыя 5—10 гадоў — гэта першыя кандыдаты на банкруцтва.

Памятаю, на такім жа пасяджэнні ў студзені М. Русы скардзіўся: ніхто нас не слухае, вось нам бы ўлады паболей. Далі ўладу. І што? Міхаіл Іванавіч скардзіцца зноў і туманна спасылаецца на меркаванні юрыстаў: маўляў, гэтая ўлада юрыдычна не афармлена, таму ёю карыстацца нельга. На што яму справядліва заўважылі: вам далі закон прамога дзеяння, і ніякія спасылкі не прымаюцца. Вывад: зямельны камітэт сваімі правамі не карыстаецца. А значыць, вольна ці не, але зямельную рэформу тармозіць.

А з вялікага і шматслоўнага выступлення старшыні пастаяннай камісіі ВС У. Гаркуна, дзе было ўсё: ад шчырай любові да фермера і такой жа шчырай любові да ўсіх астатніх сельскіх працаўнікоў, — запомнілася адно. З таямнічым выглядам Уладзімір Гіляравіч паведаміў аб тэлеграме Руцкога, дзе віцэ-прэзідэнт Расіі заклікаў з разуменнем ставіцца да калгасаў. І ўсё стала на свае месцы. Можна зразумець Руцкога, які трапіў пад уплыў чарговай групоўкі, але прычым тут незалежная Беларусь і яе зямельная рэформа?

Потым «на дыван» пачалі выходзіць прадстаўнікі абласцей. Запомнілася выступленне аднаго таварыша з Гродзенскай вобласці. Бадзёра паведаміўшы, што ў вобласці створаны 164 фермерскія гаспадаркі і на кожную ў сярэднім прыпадае па 10,8 гектара, ён пачаў разважаць аб тым, што Гродзеншчына атрымлівае на душу насельніцтва сельскагаспадарчай прадукцыі больш, чым Германія, Галандыя, Францыя, ЗША і г. д. Хтосьці з іроніяй спытаў: «Усе разам?»...

А вось факты іншага парадку. 20 сакавіка, згодна з даведкай рэферэнта, у вобласці яшчэ не быў створаны зямельны фонд запасу. Гродзенскі таварыш паспешліва ўдакладніў: «20 сакавіка быў створаны на выканкоме». Выходзіць, чакалі да апошняга дня, а калі зразумелі, што гэта можа скончыцца дрэнна — хуценька падстрахаваліся. Не дапамагло. Проста ўстаў член Прэзідыума Г. Карпенка і спытаў: «Пра што вы тут нам расказваеце? Адкажыце: чаму не выконваецца закон?» Такія зараз пайшлі прынцыповыя гутаркі. Яно так і павінна быць, мне здаецца, бо чакаць, калі ў мясцовай улады нарэшце абудзіцца сумленне, ужо няма сэнсу. Трэба прызнаць прама: акрэслілася яўнае і бескампраміснае процістаянне. Не, не паміж калгаснікам і фермерам (гэта, хутчэй, пытанне часу і псіхалогіі). Тут звычайная барацьба за ўладу, за магчымасць кантраляваць, як і раней, усё. А пытанне аб фермерстве — поле бою, дзе гэтая барацьба адбываецца.

У сувязі з гэтым першая праблема, якая ўзнікае — праблема кантролю. Калі хочаце — хто і як будзе караць.

Пракуратура? Так, ёй дадзена права звяртацца з іскам у суд і ўзбуджаць справу. Яна гэта робіць рэдка і непаслядоўна. Дрэнна? Вядома. Але з Мінска ўсё бачыцца значна прасцей. Пракурор у раёне — фігура залежная шмат ад каго. У той жа час і ад пракурора залежаць многія. Так ствараецца глеба для, так бы мовіць, нефармальных кантактаў. Думаю, тлумачыць не трэба. Гэта першае. Другое: апрача зямельных спраў на пракурору «вісіць» сотня іншых. І за іх у яго спытаюць таксама, праўда, ужо іншыя.

Ствараецца ўражанне, што мясцовы Савет — непрыступны замак. Гэта казкі, а рэальнасць сапраўды не вельмі вясёлая: ніхто не хоча ісці на адкрыты канфлікт з мясцовай уладай. Безумоўна, калі яе пакінуць у такім выглядзе, як зараз, то смелых і не знойдзецца. Плюс шлейф законаў, якія трэба прымаць у дадатак да ўжо існуючых, каб не ператварыць зямельную рэформу ў садом і гамору.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

### СУСТРЭЧА Ў КІЕВЕ

У мэтах выпрацоўкі ўзгодненай палітыкі ў галіне эканамічнай рэформы, вырашэння шэрагу практычных задач па пастаўках у 1992—1993 гадах прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння і тавараў народнага спажывання ў сталіцы Украіны знаходзілася дэлегацыя Беларусі на чале з першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларусі М. Мясніковічам.

Адбыліся сустрэчы з прэм'ер-міністрам Украіны В. Фокіным і яго намеснікамі, кіраўнікамі асобных міністэрстваў і ведамстваў. На іх былі разгледжаны і ў асноўным вызначаны падыходы па вырашэнню такіх пытанняў, як узаемаразлікі паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія знаходзяцца на тэрыторыях дзяржаў, і ўрэгуляванне сальда плацежнага балансу двухбаковых эканамічных адносін; абарона ўласнасці Рэспублікі Беларусь на Украіне; правядзенне ўзгодненай палітыкі па крэдытах і знешнеэканамічнай дзейнасці; рознічныя цэны і тарыфы; выкарыстанне рубля ў 1992 годзе ў сістэме безнаяўных разлікаў па знешніх пастаўках прадпрыемстваў і арганізацый у якасці разліковага і плацежнага сродку; аб'ёмы паставак у II квартале бягучага года цукру і алею.

Дасягнута таксама дагаворанасць аб падрыхтоўцы і падпісанні ў бліжэйшы час камюніке ўрадаў Украіны і Беларусі аб асноўных прынцыпах эканамічнай палітыкі і аб адкрыцці гандлёвых прадстаўніцтваў у Кіеве і Мінску.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

### ПАРКУ-ІЛЬГОТЫ

БРЭСТ. Асобны, льготны статус у цяперашні камерцыйны час гарвыканкам прадаставіў гарадскому парку — аднаму з унікальных у рэспубліцы па калекцыі рэдкіх дрэў і раслін.




Малюнак А. ШАЎЦОВА.

### Х. А. САМАРАНЧ:

### «Я ВЕРУ Ў ВАС...»

Роўна суткі знаходзіўся ў Мінску Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуан Антоніо Самаранч. Напружанай і шчыльнай была праграма візіту да нас главы самай вялікай у свеце сям'і — алімпійскай. Сеньёр Самаранч сустрэўся з кіраўнікамі рэспублікі — Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам і Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, наведаў алімпійскія аб'екты, грунтоўна і шчыра пагутарыў з прадстаўнікамі Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь, вядомымі спартсменамі, журналістамі...

**(Падрабязная справаздача аб знаходжанні ў Мінску Х. А. Самаранча будзе апублікавана ў адным з бліжэйшых нумароў «Звязды»).**

### У ДУХУ КАНСТРУКТЫЎНАСЦІ

Канструктыўнасць — менавіта гэтым словам можна ахарактарызаваць атмасферу сустрэч кіраўнікоў нашай рэспублікі са шматлікімі замежнымі дэлегацыямі, якія амаль штодзённа праходзяць апошнім часам у Доме ўрада. Такімі былі перагаворы з дэлегацыяй Камісіі еўрапейскіх суполак (КЕС), з кіраўніцтвам міжнароднай карпарацыяй «Чыкага Фармакон» і іншымі.

Лаканічнай, максімальна дзелавой і канструктыўнай была і ўчарашняя сустрэча намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дземчука з дэлегацыяй Еўрапейскага тэлерадыёвяшчальнага саюза (EBU), дзе абмяркоўваліся ўмовы ўступлення нашай рэспублікі ў гэтую арганізацыю. У Мінску яе прадстаўлялі галоўны сакратар EBU пан Жан-Бернар Мюнх (Швейцарыя), генеральны дырэктар РТЕ пан Томас-Вінсент Фін (Ірландыя), прэзідэнт ГРФ пан Ксавіе-Гую Боша (Францыя) і генеральны дырэктар «Юлейсрадыё» пан Рэйна Паасіліна (Фінляндыя).

М. Дзямчук коратка азнаёміў гасцей з сённяшняй сітуацыяй і праблемамі рэспублікі. Асабліва ён падкрэсліў тое значэнне, якое мае ўключэнне Беларусі ў адзіную еўрапейскую інфармацыйную прастору для яе паспяховай інтэграцыі ў эканамічную інфраструктуру Захаду. У сваю чаргу, госці расказалі аб дзейнасці саюза, яго планах і перспектывах. Разумеючы ўсю складанасць эканамічнага становішча рэспублікі, яны абяцалі прадугледзець шэраг ільготных умоў для яе ўступлення ў EBU.

Перагаворы будуць прадоўжаны.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

СУБ'ЕКТЫЎ

## Хочацца жыць, як пры капіталізме. Але і сацыялізму шкада

Як любіў паўтараць наш былы прэзідэнт, «працэс пайшоў». Працэс прыватызацыі. На Беларусі. А я і не ведаю, радавацца гэтаму ці не. З аднаго боку, быццам бы добра: нарэшце нічыйная маёмасць набудзе гаспадара, напэўна, лепш жыць станем. Прыемна. А з другога — не спазніцца б самому на дзяльбу каравая. А ўвогуле, чаму я гавару — «нічыйная маёмасць», яна ж дзяржаўная, а значыць і мая. З маіх капеек і рублёў таксама складалася. А вось пакуль прадаюць-купляюць без мяне. І, можа, лепшы кавалак. Крыўдна.

Нядаўна даведаўся, што суседзі насупраць Дома друку сталі ўласнікамі. Набылі вялізны магазін, універмаг цэлы. Дом гандлю «Першамайскі». За 4 мільёны 743 тысячы 800 рублёў. Так дакладна падлічыла камісія Мінгарвыканкома. Прыкінуў на сябе: калі б сам купляў — грошы ўлада запрасіла задужа вялікія. Пяць мільёнаў амаль — не жарты. А гляджу ў сталоўцы на маладых дзяўчат, учарашніх дзесяцікласніц (а гэта яны прыхапілі магазін) і думаю: танна прадала дзяржава. Такі вялізны універмаг, на цэлы квартал — і ўсяго за чатыры мільёны. Гэта ж сярод белага дня нас з вамі распранаюць. Ці знойдзецца на іх, «прыхватызатараў», управа?! На плошчу хочацца.

Псіхалогія...

Слухаю дэбаты ў парламенце. Адны лаюць урад за тое, што ён вядзе «дзікую прыватызацыю», рабуе народ, трэба тэрмінова ўсё зрабіць як было і пачаць па закону. Правільна.

Але тыя ж самыя дэпутаты патрабуюць адстаўкі ўрада, бо ён не хоча весці рэформы, не здатны правесці абвальную прыватызацыю, страціў марна шмат часу і не набыў аніякага вопыту той жа прыватызацыі, тармозіць усё. А закона патрэбнага дэпутаты не прымаюць. І таксама правільна. Гэта ж не бутэльку на траіх раздзяліць. Хочацца жыць, як пры капіталізме, але і сацыялізму шкада.

Псіхалогія. Ці палітыка?

— Якая там палітыка! Кожны грабе пад сябе,— чую голас пралетарыя, у якога з уласнай маёмасці як былі толькі рукі, так і засталіся. Пакінем заўвагу ў памяці, а самі рушым да тых, хто «грабе».

Дырэктар Дома гандлю «Першамайскі» Тамара Аляксееўна Вардомская, у падпарадкаванні якой раптам аказалася не 240 прадаўцоў, а ўласнікаў, мне здалася крыху збянтэжанай. Прываліўшым шчасцем?

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### АБСТАЛЯВАННЕ ДЛЯ НДІ

МІНСК. 7 красавіка ў Акскаўшчыне сустрэліся супрацоўнікі Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны з генеральным дырэктарам праграмы «Чарнобыль — ЮНЕСКО» Лефеўрам. Нагадаем, што гэтая праграма ўключае 69 канкрэтных праектаў і разлічана на рэгіёны Беларусі, Украіны і Расіі.

Па ініцыятыве пана Лефеўра і дзякуючы яго намаганням у НДІ радыяцыйнай медыцыны ў гэты красавіцкі дзень было перададзена унікальнае абсталяванне на суму каля мільёна долараў.

АФІЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ВІЗІТ У ФРАНЦЫЮ

Сёння пачынаецца афіцыяльны візіт Старшыні ВС Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча ў Францыю. У праграме візіту — падпісанне Парыжскай хартыі для новай Еўропы, а таксама абмеркаванне пытанняў двухбаковага супрацоўніцтва. Разам з С. Шушкевічам у Францыю вылецеў міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка.

### ВАЛЮТА НЕ ЦЕРПІЦЬ САНТЫМЕНТАЎ

Пра звышэканомных нашых афіцэраў, якім пашчасціла даслужваць у групе войск СНД у Германіі, і іх жонак, ходзяць легенды і анекдоты. Вынаходлівасць жанчын, накіраваная на тое, каб атрымаць некалькі лішніх марак, не ведае межаў. Яны ўжо не пасылаюць родным і блізкім прыгожыя святочныя паштоўкі нямецкай вытворчасці. Віншаванні пішуць на звычайных аркушах паперы. Бо паштоўка ў Германіі каштуе 5 марак. А дойчмарка, як вядома, прадаецца ў нас сёння за 60 рублёў. Пачуцці пачуццямі, а канверсуемая валюта, яна, як гавораць, і ў Афрыцы валюта.

Таму родная сястра аднаго маладога мінчаніна, у сям'і якога днямі нарадзілася дачка, у сваім віншаванні з Германіі так і напісала: «Прабач за звычайную паперу, маркі на аўтамабіль «Вольва» збіраем. Зразумей нас».

**Л. ТУГАРЫН.**

### ВЫЙШЛА «ПРАВДА»

**Пасля трохтыднёвага вымушанага маўчання ўчора зноў выйшла газета «Правда». Нагадаем: яна не выходзіла з-за адсутнасці сродкаў на яе рахунку, г. зн. немагчымасці рэдакцыйнага калектыву аплачваць выпуск нумароў. Як вядома, практычна ўсе выданні цяпер стратныя: тых падпісных грошай, якія ўзяты ў чытачоў у мінулым годзе пры падпісцы, многім газетам не хапіла нават на першы квартал, і прычынай таму рэзкае падаражанне паперы і паштовых паслуг. Лягчэй тым, да каго добразычліва ставіцца ўлада і выдзяляе пэўныя датацыі. «Правда» ў гэты спіс не трапіла...**

Ва ўчарашнім нумары газеты змешчана інтэрв'ю з Б. Ельцыным, пры гэтым ён адназначна заявіў, што «Правда» «павінна ад-радзіц-ца!» Як можна меркаваць па тым жа інтэрв'ю, а таксама па іншых матэрыялах, газета збіраецца і надалей быць апазіцыйнай да цяперашніх расійскіх улад.

Варта зазначыць: няхай выходзяць газеты розныя, у тым ліку і апазіцыйныя. Але гэта павінен вызначыць сам чытач, «прагаласаваўшы» за тую ці іншую газету сваёй кішэняй, як гэта робіцца ў многіх іншых краінах. Дрэнна, калі газетам будуць выдзяляцца датацыі па прынцыпе «люба» ці «не люба», патрэбен нейкі адзіны падыход, інакш яны вельмі хутка страцяць сваю свабоду і незалежнасць, якой так настойліва дабіваліся.

«Правду» цяпер пракрэдытавалі, хоць, зрэшты, ці надоўга хопіць ёй выдзеленых сродкаў?

# Хочацца жыць, як пры капіталізме. Але і сацыялізму шкада

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Не, адказнасцю. Пры той эканамічнай палітыцы, якая вядзецца, мы заўтра можам стаць банкрутамі. Крэдытаў банк не дае, а калі і дае, то пад такія працэнты, хоць караул крычы.

— Пабойцеся Бога, Тамара Аляксееўна! Пакупнікі ўжо даўно крычаць. Ад цэн вочы на лоб лезуць, а тут гандаль яшчэ трыццаць тры працэнты дабаўляе, 25 — магазін плюс 8 — базы. А гэта ўсё ж такі не зрабіць рэч, а толькі прадаць. Пры нашым дэфіцыце работа, пагаджуся, нервовая, але ж не вельмі пыльная. Апошні лайдак пры такіх працэнтах у банкрутах хадзіць не будзе, таму што для нас, пакупнікоў, самы малодшы прадавец — гэта начальнік карыта, вакол якога мы таўчомся ў чарзе. Як гаворыць Жванецкі, дайце мне ў арэнду метр граніцы — і больш ніякай маёмасці не трэба. Яму хопіць.

— Ведаеце, у чужых руках і кіёк аглобляй здаецца. Я трыццаць гадоў у гандлі і толькі двойчы ў грамадскай думцы і перад сваім сумленнем не была абліта брудам. Гэта ў самым пачатку сямідзесятых гадоў і зараз. Тады мы былі заваленыя імпартам, туфлі па 40 рублёў ніхто не браў, усе шукалі лакіраваных па 20. Пра айчынны тавар я ўжо і не кажу. Яго кожны месяц уцэньвалі. А астатні час мы гнуліся перад начальствам і базамі, каб выбіць дэфіцыт (а ім стала літаральна ўсё), каб выканаць план. А зараз?

Мы сядзім з вамі, размаўляем і — ніводнага званка па тэлефоне. Не заўважылі? Перад Новым годам я не магла тут сядзець. Званілі знаёмыя, знаёмыя знаёмых, па даручэнню і без яго, зверху і знізу... Цяпер — усё на прылаўках. Калі тавар ляжыць на складзе і чакае кагосьці, то мы не маем грошай на тое, каб купіць новы. Нам патрэбен як мага больш хуткі абарот.

Я прашу прабачэння ў Тамары Аляксееўны за тое, што размова ў нас атрымалася, як у класавых ворагаў, як у пракурора з падсудным. Але каб яна была іначшай, мне таксама патрэбен уласны магазін. Таму ўявім, што я яго маю.

І тут выявілася, што калектыў «Першамайскага» прыватызаваў не памяшканне магазіна, а толькі рабочыя месцы, касавыя апараты, прылаўкі і іншую маёмасць. Само памяшканне трэба па-ранейшаму арандаваць у дзяржавы і чакаць прыняцца Закона аб прыватызацыі. А гэта мяняе сітуацыю, таму што цана для калектыва можа аказацца не па кішэні. Але дырэктар я смелы. Галоўнае — увязацца ў бойку, а там разбяромся.

А калі крыху разабраліся што пачым, высветлілася, што гандлёвая скідка ўжо не 25 працэнтаў, а толькі 20. Ну, не бяда. Ранейшых 25, нават з пункту гледжання гандляра, было занадта. Але ў новыя 20 працэнтаў сталі ўваходзіць і 8 працэнтаў аптавікоў. Да гэтага базы 8 працэнтаў «накручвалі» асобна. Значыцца магазіну застаецца ўсяго 12. На перспектыву планую ўстанавіць прамыя сувязі з прадпрыемствамі і замежнымі фірмамі, каб можна было абысціся без пасрэднікаў. Але гэта ў перспектыве. Зараз пакуль усе сувязі і кантакты з таваравытворцамі ў руках аптовых баз. І дзяліцца яны імі не хочуць. Ім таксама трэба есці. Даводзіцца мірыцца, насіць дулю ў кішэні і марыць аб стварэнні ў магазіне хоць невялічкага аддзела забеспячэння. Людзі ў ім павінны быць і таваразнаўцамі, і камерсантамі, і эканамістамі адначасова.

Далей. Для такога вялікага магазіна пры новых цэнах як мінімум патрэбна каля 20 мільёнаў рублёў абаротных сродкаў для закупкі тавараў. Таму што перш чым прадаць — трэба купіць. А з прыватнікам нашы банкі, нават камерцыйныя, размаўляюць праз губу. За крэдыт патрабуюць і 25, і 50 працэнтаў. А калі ўзяць пад увагу розныя падаткі дзяржаве (а іх набягае 43 працэнты ад усіх даходаў), то не адзін раз падумаеш: навошта такі тлум? Сальда з бульда ніяк не сыходзіцца.

Гэта што датычыць эканомікі. Але, як казаў заснавальнік навуковага камунізму і знакаміты эканаміст Карл Маркс, адносіны ўласнасці, якія ўзнікаюць у працэсе вытворчасці, гэта перш за ўсё адносіны людзей наконт уласнасці. І правільна, заўважым, казаў. Хоць зараз вельмі модна пісаць пра тое, у чым ён памыляўся. Дык вось. Як толькі магазін стаў прыватнай уласнасцю калектыву, высветлілася, што ўласнікаў набралася больш чым трэба. Учора, пры сацыялізме ўсе былі на месцы, дружна працавалі, занудлівым пакупнікам нават скардзіліся —«вас многа, а я адна», а сёння, на золку капіталізму, уласнікі загаварылі пра раздутыя штаты, пра тое, што некаторыя «сваім мурлом» адпужваюць кліентаў, што так, як раней, працаваць нельга. Каб не збіраліся натоўпам каля прылаўкаў, вырашылі кожнаму чалавеку дабавіць да адпачынку па шэсць дзён. За свой кошт, вядома. Можна б было скараціць штаты, але як ты скароціш уласніка?

Вы не забылі, паважаныя, што я — дырэктар калектыўна прыватызаванага магазіна? Як малады дырэктар і ўжо немалады мужчына, я таксама высветліў, што калектыў у мяне суцэльна жаночы, а жанчыны, як вядома, валодаюць такой уласцівасцю: час ад часу нараджаюць дзяцей.

Пры сацыялізме для кіраўніка прадпрыемства гэта лёгкі насмарк, а пры капіталізме — грып у цяжкай форме. Калі 40 чалавек з 200 у дэкрэтным водпуску і акрамя віншаванняў ім трэба яшчэ і плаціць зарплату, то неяк сама сабой прыходзіць у галаву думка, што мужчына пры капіталізме за прылаўкам глядзіцца не горш за жанчыну. А можа, і лепш. Я не настойваю, пытанне гэта спрэчнае. І ўсё ж, і ўсё ж...

Цяпер вы можаце ўявіць, колькі зусім справядлівых слёз, непаразуменняў, крыўды і абраз чакае вас на шляху да ўласнага магазіна. Дык ці не лепш заставацца нам без магазінаў, затое чалавек чалавеку па-ранейшаму будзе сябрам, таварышам і братам?

Не, што ні кажыце, а сацыялізму шкада. Асабліва калі ў цябе няма ўласнага магазіна. Але жыць хочацца, як пры капіталізме.

Вельмі хочацца.

**Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

# Дайце інваліду шанц

**Гутарка з дырэктарам Беларускага НДІ экспертызы працаздольнасці і арганізацыі працы інвалідаў Міністэрства сацыяльнага забеспячэння Беларусі, прафесарам, доктарам медыцынскіх навук Эдуардам ЗБАРОЎСКІМ**

**— Наша грамадства выхавала сваіх грамадзян у непазбежнасці, усеагульнасці і пастаянстве сваёй бацькоўскай ласкі. Гарантаваная і бясплатная адукацыя, медыцына, самы танны ў свеце грамадскі транспарт. Пра цябе клапоцяцца, цябе ведаюць, табе непазбежна прыйдуць на дапамогу ў любы патрэбны момант. Мой бацька ў свой час ледзь не памёр ад шырокага інфаркту, які здарыўся пасля шматлікіх зваротаў да ўрачоў.**

**Бацька пасля працяглага курса лячэння застаўся інвалідам другой групы.**

**Наколькі я ведаю, падобных сітуацый безліч.**

— Наша медыцына арыентавана на хуткую і неадкладную дапамогу. Калі ў чалавека нешта баліць, ён звяртаецца да ўрача, і яго пэўны час лечаць. Гэта толькі дэклараваласся доўгі час, што мы папярэджваем усе хваробы чалавека. У лепшым выпадку, гутарка вялася аб прафілактыцы інфекцыйных захворванняў, дзе мы сапраўды дасягнулі поспехаў. Што ж датычыцца прафілактыкі хранічных захворванняў, якія даюць асноўную частку хворых і інвалідаў, то тут мы значна адсталі ад развітых краін. У Англіі, Фінляндыі, іншых краінах створаны цэлы шэраг прафілактычных праграм, якія ўзначальваюць... журналісты, палітычныя дзеячы. Там гэта сапраўды справы дзяржавы.

Толькі за мінулы год у нашай рэспубліцы інвалідамі сталі 57 тысяч чалавек. Па колькасці — гэта цэлы сярэдні раён. І гэтых людзей трэба ўтрымліваць, трэба думаць аб іх здароўі і будучыні. Між тым, з гэтых пяцідзесяці сямі тысяч дваццаць тры тысячы людзі працаздольнага ўзросту. Гэта значыць, што яны маглі б яшчэ працаваць і працаваць на карысць дзяржавы і сваю таксама.

Трэба адзначыць, што трыццаць працэнтаў захворванняў, якія прывялі іх да інваліднасці, — гэта захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, 24—анкалагічныя, 12—13 працэнтаў— траўмы, страўнікава-кішачныя захворванні і г. д.

Усе гэтыя хваробы ў першую чаргу залежаць ад нашых паводзін, нашага ладу жыцця, кіравання сваім здароўем. І калі нашы намаганні ў гэтым сэнсе накіраваць у правільнае рэчышча, то можна, на мой погляд, дасягнуць многага.

**— Але ўсё ж цяпер існуе нейкая сістэма вяртання інвалідаў у рады працоўных?**

— Аб эфектыўнасці гэтай сістэмы, калі яе ўвогуле можна назваць сістэмай, сведчыць той факт, што кожны год з 350 тысяч беларускіх інвалідаў толькі тры (!) працэнты пазбаўляюцца інваліднасці. Усяго ў нас працуюць прыблізна 16—18 працэнтаў інвалідаў.

Таму прыняты Закон аб сацыяльнай абароне апошніх і здаецца ў гэтым плане вельмі патрэбным і перспектыўным як і распрацоўка яго асноўных палажэнняў.

Па-першае, прапрацоўваецца рашэнне аб стварэнні рэспубліканскай рэабілітацыйнай службы. Дарэчы, наш інстытут павінен быць рэарганізаваны ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр па рэабілітацыі.

Па-другое, органы ўрачэбна-працоўнай экспертызы перадаюцца Міністэрству аховы здароўя. Да гэтага міністэрства ўвогуле не несла ніякай адказнасці за далейшы лёс інваліда пасля яго лячэння. Атрымліваўся відавочны парадокс. Гэтыя людзі павінны, наадварот, быць у цэнтры медыцынскай увагі.

Па-трэцяе, Законам прадугледжваецца пераўтварэнне УПЭКаў у медыка-рэабілітацыйныя экспертныя камісіі. Што гэта азначае? А тое, што стварэнне індывідуальнай праграмы рэабілітацыі для кожнага інваліда павінна ў першую чаргу ляжаць на сумленні ўрача, які яго лечыць.

І нарэшце чацвёртае: законам зацверджана і ў гэтыя дні ствараецца этапнасць сістэмы рэабілітацыі. За медыцынскую рэабілітацыю адказвае, безумоўна, медыцына. За медыка-прафесіянальную, якая прадугледжвае значнае аднаўленне патрэбных функцый, — ужо не толькі яна, а ў нейкай ступені і служба занятасці. За сістэму перавучвання інвалідаў на больш лёгкую спецыяльнасць— да двух першых падключаецца і сістэма народнай адукацыі.

Ну, і за ўладкаванне інваліда на новым месцы працы — вышэй пералічаныя інстанцыі плюс усе прадпрыемствы і ўстановы Беларусі. Уведзены эканамічныя квоты і санкцыі для тых прадпрыемстваў, сярод працаўнікоў якіх не набіраецца 5 працэнтаў інвалідаў.

**— Усё гэта добра. Але ці не засталіся ўсе гэтыя планы ў сваёй большасці «папернымі марамі»?**

— Нейкія палажэнні ўжо пачынаюць дзейнічаць. Напрыклад, першыя два. 21—22 красавіка будзе праведзена першая рэспубліканская канферэнцыя па пытаннях рэабілітацыі інвалідаў з удзелам усіх зацікаўленых бакоў. Праца вядзецца. Галоўнае, што аб гэтым загаварылі на дзяржаўным узроўні, зразумелі, што без гэтага нельга ўсур'ёз гаварыць аб клопаце пра інвалідаў. Хоць, канешне, не хапае медтэхнікі, няма прафесіянальных кадраў рэабілітолагаў і шмат чаго іншага. І ўсё ж мы верым у поспех пачатай справы, якая, трэба прызнаць, расцягнецца на некалькі гадоў. У Германіі, напрыклад, такая сістэма будуецца з часоў Бісмарка, які першы спрагназіраваў рост інваліднасці. Гэта прызнаюць самі нямецкія ўрачы і палітыкі.

**— Расцягнецца надоўга? Мы ўжо ўваходзім у рынак. Дзікія цэны, жабрацкая інвалідная пенсія. Можа, трэба гаварыць аб дадатковых датацыях на пэўныя выплаты і льготы гэтай групе насельніцтва?**

— У Германіі толькі дваццаць працэнтаў інвалідаў атрымліваюць пенсію. У ЗША — трыццаць.

Сістэма льгот — гэта не вырашэнне праблемы. Мы ніяк не можам зразумець, што льготы развальваюць грамадства, ствараюць пачуццё непрыязнасці да саміх інвалідаў. Калі я чытаю, што інваліды дзесьці атрымалі за год трынаццаць назваў дэфіцытных тавараў, а я, дырэктар інстытута, сплю на разваленай канапе, то хто аб гэтых інвалідах будзе клапаціцца далей?

Калі інвалід без ног—дайце яму машыну ці нейкі іншы сродак руху.

Калі сляпы — дайце сродак для чытання, глухі — патрэбны меры, каб неяк зменшыць гэтую страту і даць магчымасць працаваць.

Альтэрнатывы шляху рэабілітацыі і працаўладкавання інвалідаў я не бачу.

Кожны падаткаплацельшчык павінен ведаць, куды ідуць яго сродкі. Паводле некаторых прагнозаў, у бліжэйшай будучыні непрацаздольных людзей будзе каля мільёна чалавек. І што, мы будзем усю гэтую армію карміць са сваёй кішэні?

**— Усё гэта гучыць вельмі пераканаўча. Але ў нас, прабачце, і без інвалідаў будзе шмат беспрацоўных.**

— Ведаеце, словазлучэнне— грамадства роўных магчымасцей — не такое ўжо дрэннае.

Адразу пасля вайны адзін мой сваяк з Барысава застаўся без рукі і без нагі. Але ён не скарыўся лёсу, а ўсё жыццё сумленна працаваў бухгалтарам.

У большасці выпадкаў у інвалідаў някепскія галовы і, што самае важнае ў рыначных умовах, жаданне працаваць і адказнасць за свае паводзіны. У мяне самога выдатна працуе эканамістам хлопец-інвалід. Я задаволены. Ён абавязковы чалавек і даражыць сваім месцам.

А калі чалавек — ні на што не здатны лайдак, то чаму мы павінны па ім праліваць кракадзілавыя слёзы? У Амерыцы, ды і ва ўсім цывілізаваным свеце не вельмі паважаюць беспрацоўных. Калі ў цябе ёсць жаданне працаваць — ты будзеш працаваць. У нас жа гэта і справа гуманнасці — даць інваліду шанц зацвердзіцца ў грамадстве, у сваіх магчымасцях і здольнасцях, а ў большасці выпадкаў — вярнуць веру ў жыццё.

Асабістая зацікаўленасць кожнага чалавека ў працы, у тым ліку і інваліда, — гэта, мабыць, і ёсць асноўны закон эканамічнага развіцця грамадства.

**Гутарыў Аляксандр КОКТЫШ.**

**ПАСЛЯСЛОЎЕ. Гэтым інтэрв'ю тэма сацыяльнай абароненасці інвалідаў і прафілактыкі хранічных захворванняў не закрываецца. «Звязда» ў бліжэйшы час збіраецца адкрыць спецыяльную рубрыку, якая будзе прысвечана, мабыць, самаму галоўнаму ў жыцці кожнага чалавека — выжыванню ў цяперашніх умовах. Які весці лад жыцця, што есці, што піць і як працаваць, каб у сорак не стаць інвалідам.**

**Працоўная дынастыя МОТРЫЧАВЫХ з Краснаполля ніколі не мела нічога агульнага з прафесіяй акцёра.**

**А вось сённяшняга прадстаўніка дынастыі Юрыя — машыніста аўтакрана і яго сына школьніка Антона тэатр захапіў па-сапраўднаму.**

**Абодва яны іграюць у народным тэатры Краснапольскага раённага Дома культуры.**

**Фотааб'ектыў убачыў самадзейных артыстаў перад выхадам на сцэну ў дзень пастаноўкі спектакля «Атрута» па п'есе М. Гарэцкага.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

ГІСТОРЫЯ БЕЗ «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

# Вяртанне наркома Прышчэпава

Для адных ён і сёння нацдэм, вораг народа, хросны бацька «прышчэпаўшчыны»: для вучоных накшталт прафесара А. Залескага і доктара ад гісторыі (так-так, менавіта **доктара ад гісторыі,** а не доктара навук) Г. Герасіменкі; як і для тых, хто ў далёкія трыццатыя гады без суда і следства бязлітасна распраўляўся з заможнымі вяскоўцамі, кідаючы ім у твар гнеўнае і крыўднае — «кулак»... Такіх ацэньшчыкаў, на шчасце, ужо не так і шмат. А для іншых — для дзесяткаў і соцень тысяч нашых суайчыннікаў ён — Змітрок Філімонавіч Прышчэпаў — сумленны і шчыры змагар за народнае шчасце, народны камісар земляробства і адзін з членаў першага ўрада нашай шматпакутнай Беларусі.

Ягоны лёс, па сутнасці, мала чым адрозніваецца ад лёсаў тых, з кім Змітрок Філімонавіч працаваў і разам з кім змагаўся...

Дзесяткі, сотні імёнаў нашых выдатных папярэднікаў вяртаюцца сёння гісторыі. Шчыруюць над гэтай патрэбнай і ўдзячнай працай навукоўцы, асабліва сярэдняга і малодшага пакаленняў, якія не паспелі запляміць сябе «выкрыццём» «шкодных ухілаў і накірункаў»... Імкнуцца праявіць тут сябе і некаторыя журналісты і пісьменнікі, схільныя да пошукаў архіўных дакументаў, вандраванняў па недалёкіх і зусім аддаленых мясцінах... І як вынік, нараджаюцца цікавыя артыкулы, даследаванні, брашуры і кнігі.

Адна з апошніх работ у гэтым накірунку — кніга журналіста Ігара Акшэўскага «Он любил эту землю»[1].

Ёмісты, дакладна выказваючы змест і сэнс усёй кнігі, дае аўтар падзагаловак да назвы: «Повесть о наркоме, неправедно осужденном, сосланном и, вероятно, расстрелянном, не получившем после своей смерти пяди родной земли на могилу». Сапраўды, Змітрок Прышчэпаў не толькі любіў нашу зямлю, шчыраваў на ёй, а і загінуў, адстойваючы інтарэсы земляробаў, найперш — сваіх землякоў-беларусаў. І не атрымаць пасля смерці пядзі гэтай зямлі на магілу — ці не кашчунства гэта, людзі?!

Матэрыял для сваёй кнігі Ігар Акшэўскі збіраў акуратна, захоплена і вельмі зацікаўлена. Ён шмат разоў пабываў на радзіме Прышчэпава, у архівах Віцебскай і Смаленскай абласцей, дзе ёсць нямала тагачасных дакументаў, у сховішчах Камітэта дзяржаўнай бяспекі і пракуратуры рэспублікі, у якіх таксама багата архіўных матэрыялаў... У далёкім Хабараўску — на краі зямлі — знайшоў ён дачку Змітрака Філімонавіча, і не адкладваючы, паімчаў да яе на сустрэчу... Дакумент да дакумента, факт да факта, успаміны аб сустрэчах да вытрымак з перапіскі з патрэбнымі людзьмі і вось перад намі дакументальная аповесць, са старонак якой паўстае светлы і праўдзівы вобраз народнага камісара земляробства.

То на адным, то на другім участку гарачых падзей ён аказваўся ў жыцці. Яму давяраюць камандаванне атрадам, а потым — і палком Чырвонай гвардыі, выбіраюць старшынёй Сенненскага павятовага выканкома і рэўкома, прызначаюць на чале Камісіі па барацьбе з бандытызмам... Прыходзіць на беларускую зямлю доўгачаканы мір, і Змітрака Філімонавіча накіроўваюць намеснікам старшыні Віцебскага губвыканкома, пазней — намеснікам народнага камісара земляробства. У 1924-м ён становіцца наркомам...

Пяць гадоў працаваў Прышчэпаў на гэтым складаным і адказным участку. Працаваў так, як падказвала сумленне, разважлівы сялянскі розум. Аднак у 1929 годзе народным камісарам Змітрок ужо не быў.

«Калектывізацыя ішла не так, як хацелася тым, хто праводзіў яе маланкава, накіроўваў у Маскву бадзёрыя рэляцыі аб нібыта паспяховай рабоце, — піша аўтар аповесці. — ...Ляцелі галовы, нярэдка светлыя, і молах адміністрацыйнай сістэмы не ведаў ні жалю, ні літасці».

Пачварнасць адміністрацыйна-каманднай сістэмы ўжо ў той час паказала сваё звярынае, крывавае нутро, справядліва зазначае І. Акшэўскі. Перад ёй усе былі роўныя: няхай ты нават самы сумленны і шчыры працаўнік, будзь ты хоць простым земляробам, хоць народным камісарам... Сталіністы бачылі ва ўсіх ворагаў народа, якія, па іх цвёрдаму пераконанню, рыхтавалі ўзброенае паўстанне, замахваліся на Савецкую ўладу, устанаўлівалі сувязі з замежнай контррэвалюцыяй... Гэта і было пастаўлена ў віну наркому земляробства Прышчэпаву, ягонаму намесніку Адамовічу, намесніку загадчыка Дзяржвыдата Ільючонку, наркому асветы Баліцкаму. А тут падаспелі яшчэ ўсялякага роду надуманыя і сфабрыкаваныя ўхілы! «...На Беларусі, — пісаў у восьмым томе БелСЭ, выдадзенай зусім нядаўна, у 1975 годзе, прыгаданы ў пачатку рэцэнзіі доктар навук Г. Герасіменка, найбольш яркай праявай правага ўхілу ў тэорыі і практыцы была так званая прышчэпаўшчына...» Гэта нібыта яны, асобныя кіруючыя работнікі зямельных і фінансавых органаў (Прышчэпаў, Лабаноўскі і інш.), на думку ілжэвучонага, зрывалі наступленне на кулака, надзялялі кулацкія гаспадаркі вялікімі зямельнымі ўчасткамі ўзмоцнена рассялялі сялян на хутары.

«Кулацкая агентура ў партыі» — такі ярлык быў прыклеяны бальшавікамі «правым ухілістам», тым, хто падтрымліваў Бухарына, Рыкава, Томскага. Тое ж, што яны, а следам за імі Прышчэпаў і ягоныя аднадумцы, заклікалі не да рэстаўрацыі капіталізму, а да заможнага, роўнага для ўсіх жыцця, ніхто пад увагу не браў. Аўтару кнігі ўдалося пераканаўча паказаць, як неапраўдана, па фальшывых абвінавачваннях стаўленікам Масквы ў Беларусі ўдалося знішчыць цвет і гордасць нашай нацыі...

«Чым вышэй узнімаецца занавес сакрэтнасці над нашым маркотным мінулым, тым больш жадання ў кожнага з нас глыбей пранікнуць у ягоныя тайны, — піша І. Акшэўскі. — І калі штосьці было з краінай, з многімі мільёнамі яе грамадзян, значыць, гэта адбываецца і з намі — іх нашчадкамі. Як і праўда, гісторыя можа быць толькі сапраўднай...» І з ім нельга не пагадзіцца. Наша агульная задача сёння — зрабіць усё, каб як мага менш заставалася ў нашай шматпакутнай гісторыі «белых плямаў», старонак, напісаных ва ўгоду камусьці з вышэйшых эшалонаў улады... Праўда і гісторыя і сапраўды непадзельныя.

...Прачытайце гэтую кніжку. Невялікая па аб'ёму, выдадзеная, на вялікі жаль, усяго толькі тыражом 2300 экземпляраў, яна стане неўзабаве бібліяграфічнай рэдкасцю. Лёс жа і справа Змітрака Філімонавіча Прышчэпава заслугоўваюць, каб пра іх ведаў кожны беларус.

**Анатоль МЯСНІКОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

[1] Игорь Акшевский. «Он любил эту землю». — Мінск, «Беларусь», 1991, 127 с.

ПАЛЕМІКА

# ПРАЦОЎНЫМ ПАТРЭБНЫ ЗАКОНЫ, ЯКІЯ ІХ АБАРАНЯЮЦЬ

**24 сакавіка г. г. «Звязда» змясціла артыкул кіраўніка юрыдычнай службы Дзяржкампрацы Беларусі В. Крывога аб «арыгінальных», на яго погляд, аўтарскіх навацыях у працоўным заканадаўстве, якія быццам бы ўнесены ў Вярхоўны Савет гэтым камітэтам.**

**Але адразу трэба адзначыць, што Камітэт па працы не мае права заканадаўчай ініцыятывы, і праект закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь прадстаўлены ў Вярхоўны Савет не ім, а непасрэдна ўрадам.**

У змесце ўрадавага праекта няма большасці з тых захадаў, аб якіх В. Крывой абвяшчае як аб ужо вырашаных рэчах. Тлумачэнне гэтаму простае. Супрацоўнік Дзяржкампрацы ў першых варыянтах свайго праекта, бадай што, галоўнай задачай працоўнага заканадаўства бачыў садзейнічанне прадпрымальніцтву. Потым, не без уплыву заўваг прафсаюзаў, указанне на гэтае «садзейнічанне» было выключана, але змест праекта цалкам захаваў тыя прапановы, што накіраваны на пашырэнне правоў наймальніка ў адносінах да работніка. Прычым робіцца гэта за кошт абмежавання правоў наёмных работнікаў. Захоўваецца і шмат тых нормаў, якія былі прыняты ў 1988 годзе і якія таксама не паляпшалі становішча працаўніка (перамяшчэнні, змена ўмоў працы, зніжэнне кваліфікацыйнага разраду і г. д.)...

Працоўнае заканадаўства нарадзілася ў сусветнай эканоміцы пад уплывам рабочага руху супраць бязмежнай эксплуатацыі. У нашай краіне, пачынаючы з першых фабрычных законаў Мікалая II, рэгуляванне працы ішло, як правіла, у бок абароны работнікаў. Усялякія спробы папраўіць эканамічнае становішча «закручваннем гаек» ніколі не прыносілі станоўчых вынікаў. Ці магчыма зараз спадзявацца на тое, што дагаворнае рэгуляванне працы палепшыць становішча працоўных? У асобных выпадках — так. Але наогул, пры ўзнікшым беспрацоўі, пры чэргах тых, хто шукае работу, наймальнік заўсёды будзе мець намер атрымаць больш, а даць работніку менш.

Таму сёння, у пераходны перыяд, рыначныя законы аб працы павінны замацоўваць правы, гарантаваць інтарэсы працоўных больш істотна і надзейна. З гэтай прычыны прафцэнтр яшчэ ў пачатку 1990 года ўнёс ва ўрад вялікі шэраг прапаноў па ўдасканаленню працоўнага заканадаўства ў гэтым напрамку. Некаторыя з іх былі выкарыстаны і Дзяржкампрацай. Аднак гэта, на жаль, не змяніла агульнай накіраванасці праекта.

Кодэксам, які дзейнічае, забаронена неабгрунтаваная адмова ў прыёме на работу. В. Крывой лічыць, што такая гарантыя належыць толькі абмежаванаму колу грамадзян. А наогул наймальнік можа адмовіць любому, хто яму не спадабаецца — ці колерам валасоў, ці даўжынёй носа альбо ростам... Сёння ўжо мала ў якой сям'і няма сталага чалавека, якому не давялося б сутыкнуцца са звальненнем, з пошукам работы. Дык што ж, пакінуць іх сам-насам з самавольствам і самадурствам наймальніка? Нельга гэтага дапусціць.

Дададзім, што ў газетным артыкуле В. Крывой не рашыўся адзначыць, што ён лічыць магчымым пазбавіць працаўнікоў абароны з боку прафсаюзаў пры звальненні па волі адміністрацыі. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў існуе ў тым ці іншым аб'ёме правіла, у адпаведнасці з якім звальненне работніка адміністрацыяй можа мець месца са згоды прафкома. Але гэта не падабаецца юрысту дзяржаўнага органа, які мае ў сваёй назве словы «па сацыяльнай абароне».

Зноў вернемся да разгляду надрукаванага артыкула. Адносна матэрыяльнай адказнасці работніка за ўрон, прычынены наймальніку, складальнік праекта закона, ён жа аўтар газетнага артыкула, не саромеючыся, дыктуе больш жорсткі падыход. На яго погляд, «памер кампенсацыі ўрону павінен быць поўным». Гэтая праблема мае такое велізарнае значэнне, што патрабавала б спецыяльнага разгляду. Таму адзначым толькі адну акалічнасць, якая цалкам выкрывае сутнасць праекта. Прапануецца адмена абмежаванай матэрыяльнай адказнасці для ўсіх работнікаў... Але вось калі ўрон прадпрыемству нанесены аплатай вымушанага прагулу работніка, што быў звольнены незаконна, то кіраўнік да матэрыяльнай адказнасці не прыцягваецца.

А вось што схавана за прапановамі «рэзка ўзмацніць адказнасць наймальнікаў за захаванне імі працоўнага заканадаўства». У прафсаюзаў трэба, лічыць аўтар, адабраць правы грамадскага кантролю і нагляду за выкананнем працоўнага заканадаўства. А вялікімі штрафамі (аж да мільёна) маецца на ўвазе абкладаць не вінаватага кіраўніка, а прадпрыемства — гэта значыць працоўны калектыў.

І гэтыя прапановы быццам бы будуць служыць сацыяльнай абароне працоўных? Не, іх мэта іншая. Сам В. Крывой на пасяджэнні калегіі Дзяржкампрацы гаварыў, што законы, якія ім запазычаны ў іншых краінах, там таксама антырабочыя, але, маўляў, жывуць там не горш за нас.

Тое, што мы сталі жыць горш, абвяргаць не даводзіцца. Але антынароднымі законамі жыцця не палепшыць. Паўстае пытанне: няўжо адказны працаўнік дзяржаўнага камітэта не разумее, у які бок зрушыцца мяжа сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, калі раптам эклектычны набор яго прапаноў будзе ажыццёўлены?

Мусіць, не разумее. Але агульная ідэя прывяла змест праекта да неабходнасці знішчыць сістэмы арганізаванай абароны працоўных правоў. Інакш як разумець такія заявы аўтара: «У праекце даволі істотна пераглядаецца роля прафсаюзаў», «ліквідуецца манаполія прафсаюзаў на прадстаўленне інтарэсаў работнікаў» і г. д.?

Гэтыя прапановы прама супярэчаць канвенцыям Міжнароднай арганізацыі працы.

Што датычыцца «манаполіі прафсаюзаў» (а аўтар, канешне, мае на ўвазе Федэрацыю прафсаюзаў), то вядома, што прафкомы вельмі цесна працавалі разам з саветамі працоўных калектываў і ў скасаванні СПК прафсаюзы ўдзелу не прымалі. З другога боку, Дзяржкампрацы павінна быць вядома, што цяпер на некаторых прадпрыемствах утвараюцца новыя прафсаюзы (напрыклад, на МАЗе, «Беларускаліі»), якія супрацоўнічаюць у абароне інтарэсаў працоўных з арганізацыямі, што В. Крывым названы «афіцыяльнымі прафсаюзамі». Трэба падкрэсліць і тое, што ў апошні час аб уваходзе ў ФПБ заяўляюць і тыя прафсаюзы, якія нядаўна ўтварыліся. Прафсаюзы ж, якія ў Федэрацыю не ўвайшлі, тым не менш разам з ёю прадстаўляюць інтарэсы працоўных перад уладай і ўрадам. Так, 17 сакавіка Свабодны прафсаюз Рэспублікі Беларусь, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Незалежны прафсаюз гарнякоў Беларусі накіравалі Вярхоўнаму Савету сумесны зварот аб неабходнасці захаваць у будучым Законе аб прафесіянальных саюзах правы прафсаюзаў, замацаваць гарантыі іх дзейнасці па абароне інтарэсаў працоўных. Згода з гэтым зваротам выражана і Канфедэрацыяй працы.

Працоўным патрэбны не арыгінальнасць праектаў, не ўзрушанасць аўтарскіх клопатаў аб «прыхватызатарах», прадпрымальніках, гандлярах-пасрэдніках. Выйсце з бездані, у якую штурхнулі народ і эканоміку, можна знайсці толькі з дапамогай працы людзей, якія ўпэўнены, што іх правы, іх будучыня абаронены дзяржавай, яе законамі.

**В. ВОЛКАЎ,**
**загадчык аддзела па заканадаўчай ініцыятыве і прававых пытаннях савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Вядома, меркаваць чытачу, хто з аўтараў і, адпаведна, «праектантаў», мае рацыю, а хто—не. Разам з тым у артыкуле В. Волкава нельга абысці яўна непрымальнае. Звернем увагу на наступныя радкі: «Працоўным патрэбны не арыгінальнасць праектаў, не ўзрушанасць аўтарскіх клопатаў аб «прыхватызатарах», прадпрымальніках, гандлярах-пасрэдніках». Знаёмы тон, вядомы стыль! Ну, вядома ж, прадпрымальнікі вінаватыя ў тым, што робіцца навокал... А ў якую добрую глебу кладуцца гэтыя словы! Ды з такім настроем не трэба і пазіраць у бок рынку — далёка не рушым. Відаць, таму і топчамся на месцы. А між тым, хочаш не хочаш, калі мы ўжо выбралі новыя эканамічныя адносіны, адносіны рыначнага тыпу, — з існаваннем прадпрымальнікаў трэба змірыцца. Існаваннем іх як класа, які дзеля сваёй выгады (ці няхай ужо будзе так: матэрыяльнага інтарэсу) будзе працаваць і на агульнаграмадскую выгаду. Іншая справа: для прадпрымальніцтва павінны быць устаноўлены і пэўныя межы цывілізаванасці.**

**Адпаведна, з яўнага непрымання яго вынікае і наступная, вельмі спрэчная. пасылка ў артыкуле: маўляў, нельга дапусціць, каб прадпрымальнік мог адмовіць таму ці іншаму чалавеку ў рабоце... Але зноў-такі пытанне: які рынак хацеў бы пабудаваць аўтар? Ці не хоча ён ужо адразу звязаць прадпрымальніка па руках і нагах? Ці разумее, што барацьба за месца на рынку працы, канкурэнцыя — гэта таксама неабходная ўмова прагрэсу?**

**Увогуле можна зразумець хваляванне многіх наконт таго, каб рабочы не аказаўся сам-насам з гэтым самым рынкам, аблічча якога чамусьці ўяўляецца не вельмі прывабным. Як кажуць, пытанне ёсць. Але, па-першае, трэба ў роўнай ступені ўлічваць інтарэсы ўсіх, пры гэтым не проціпастаўляючы, а гарманізуючы іх, увогуле браць за арыенцір эканамічную незалежнасць і свабоду кожнай асобы. А па-другое, ці многае дала гэткая карпатлівая абарона прафсаюзамі і самой дзяржавай правоў рабочых у галоўным — у плане іх заможнасці? Пытанне рытарычнае, бо вынікі наяве.**

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

# РОЗГАЛАС

## КАЛГАСЫ ПАМІРАЮЦЬ, АЛЕ НЕ ЗДАЮЦЦА

**Хто прыязджае з поўдня рэспублікі, радасна паведамляе аб цудоўным надвор'і — сонца, цёпла, да 18 градусаў. У гэта верыш з цяжкасцю, калі зірнеш у акно: дождж і холад. Але ўсё так. Брэсцкая вобласць, напрыклад, пасеяла ўжо больш за 100 тысяч гектараў збожжавых. Першая прыкмета добрага надвор'я. Усяго па рэспубліцы — 150 тысяч гектараў пасеяны ўжо. Як паведамляюць з Мінсельгаса, гэта нават крыху больш, чым летась. Праўда, гэта не значыць, што ўраджай таксама будзе выдатны. Дарэчы, большасць грамадзян нарэшце, думаецца, ужо здагадалася, што ад тэмпаў сяўбы ўраджайнасць мала залежыць.**

**Напрыклад, калі не ўгноіш зямлю, то... Гэта банальная ісціна, як ні дзіўна, сёлета набывае надзвычайную актуальнасць. Сапраўды, дзенідзе ўгнойваюць дрэнна. Прычына таксама банальная — няма іх, угнаенняў. Рэкамендавана эканоміць. Яно, як быццам, разумна, ды толькі не прыйшлося б эканоміць зімой. Толькі не ўгнаенні, а збожжа. Што такое магчыма, сведчыць інфармацыя з раёнаў.**

**Нічога новага з бензінам. З Гродна паведамляюць: забяспечанасць ім — 30 працэнтаў. Многія з тых, хто заключыў дагаворы нават і за межамі рэспублікі, — атрымліваюць мала што, а праўду сказаць — нічога.**

**Тое самае з запчасткамі. Пастаўшчыкі-замежнікі (а Расія і Украіна, як быццам, ужо замежжа) ставяць зусім канкрэтныя ўмовы. Напрыклад, патрэбны запчасткі — давай металалом... Што такое нашы сацыялістычныя гаспадаркі, павязаныя па руках і нагах пазыкамі, таксама тлумачыць не трэба. Нават першага подыху рынку, які яшчэ, канешне, ніякі і не рынак, яны не вытрымліваюць.**

**Тым не менш сеюць. Таму што, хоць памірай, а жыта сей.**

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## Падснежнік на ножцы інфляцыі

Вясна — фантастычны час. Першы цёплы дождж, першае прызнанне ў каханні, першыя падснежнікі. Прыемна падарыць дзяўчыне разам са словамі кахання букецік сінявокіх падснежнікаў. Ды яшчэ пачаставаць кубачкам духмянай кавы ў бліжэйшым бары. Толькі вось красавік у Віцебску халодны ў сэнсе цэн. На вуліцах яго з'явіліся кветачніцы, якія гандлююць падснежнікамі: лясныя кветачкі ў абрамленні яловых лапак — «пяцёрка» (мінулай вясной хапала паўрубля). А двайная кава ў бары — семнаццаць сорак. Вось і паспрабуй тут быць джэнтльменам!

Аднак не ўсё яшчэ так дрэнна. Талончык на праезд у аўтобусе каштуе ўсяго сорак капеек, на дваіх — восемдзесят. Галоўнае, што да ўскраіны горада дабрацца можна, а там і лес недалёка. Неба, трава, першыя кветкі — усё бясплатнае... Пакуль.

**У. ПІРС. (РІД).**

## Пчаляр— прафесія рэдкая

КОБРЫН **(Ю. Фёдарава).** Можа быць, таму ў такім дэфіцыце і мёд. У Кобрыне на станцыі юных натуралістаў пачала працаваць школа па падрыхтоўцы пчаляроў. Праз год-два з іх атрымаюцца кваліфікаваныя спецыялісты старадаўняй і заўсёды сучаснай галіны.

## Цялятка на трох нагах

**ДОБРУШСКІ РАЕН (У. Пернікаў). Яно з'явілася ў пачатку года на ферме калгаса «Беларусь». І, як гэта ні дзіўна, развіваецца зусім нармальна, дасягнуўшы ўжо 5-пудовай вагі. Мясцовыя жыхары, вядома ж, нараджэнне інваліда звязваюць з радыяцыяй.**

Не сцвярджаючы і не аспрэчваючы гэта, павінен сказаць наступнае. У 1984 годзе, калі яшчэ і ў памíне не было чарнобыльскай катастрофы, аўтару гэтых радкоў у саўгасе «Бацьвінава» Чачэрскага раёна давялося бачыць цялушку з 6 нагамі, дзве з якіх знаходзіліся на спіне.

## СІЛКОМ НЕ БУДЗЕШ ЛЮБЫ

**МІНСК. Учора калектыў друкарні імя Ф. Скарыны Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь аб'явіў сутачную забастоўку.**

Прычынай гэтай крайняй меры паслужыла рашэнне Прэзідыума АН РБ і Міністэрства інфармацыі аб аб'яднанні друкарні з выдавецтвам «Навука і тэхніка». Гэтае рашэнне, на думку бастуючых, несправядлівае, бо калектыў друкарні ў свой час галасаваў супраць яго, з чым не палічылася кіраўніцтва Акадэміі навук. Работнікі друкарні адмаўляюцца прыняць у свае рады 140 супрацоўнікаў выдавецтва «Навука і тэхніка» і патрабуюць адмены гэтага рашэння і перадачы друкарні ва ўласнасць калектыву.

## АЎТАСТАНЦЫЯ ЗАКРЫТА НА ЗАМОК

**Калі вам тэрмінова трэба трапіць у Навагрудак, то перш чым бегчы на аўтобус, падумайце. Бо заехаць у Навагрудак або выехаць з яго можна толькі на спадарожным аўтобусе ці на ўласнай машыне. Аўтобусы навагрудскай аўтабазы ў рэйсы не выходзяць. А на дзвярах аўтастанцыі вісяць замок і аб'ява, што да 15 красавіка аўтобусы хадзіць не будуць. Прычына адна — няма бензіну.**

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

## «ГАСПАДЫНЯ» ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ. І НЕ ТОЛЬКІ

Амаль кожным ранкам у магазінах і кіёсках «Белсаюздруку» з'яўляецца новае перыядычнае выданне. Больш за пяцьсот друкаваных перыядычных выданняў зарэгістравана ў Беларусі. Адны з іх ужо маюць дзесяткі і нават сотні тысяч сваіх пастаянных падпісчыкаў, другія пакуль яшчэ шукаюць дарогу да чытача, а трэція толькі-толькі ўбачылі свет.

Сярод апошніх — і часопіс з прыгожай, мілагучнай назвай «Гаспадыня». Ідэя і ініцыятыва яго выдання належыць Асацыяцыі кулінараў Рэспублікі Беларусь.

Здзіўляе перш-наперш тое, што заснавальнікі і творчы калектыў новага часопіса ўзяліся за рызыкоўную справу: «Гаспадыні» давядзецца ўступіць у канкурэнцыю з такімі папулярнымі выданнямі для жанчын, як «Работніца і сялянка», «Крестьянка», «Работніца» і іншымі. Але не будзем займацца прароцтвамі. Ці не лепш пагартаць старонкі часопіса і пастарацца зразумець, чым адметнае гэта выданне, з якімі намерамі ідзе да нас «Гаспадыня»?

Пазнаёмцеся — не пашкадуеце. Уражанне такое, што ў «Гаспадыні» сапраўды безліч клопатаў і спраў. Асабліва цяпер, з надыходам вясны, калі кліча да сябе, патрабуе штодзённай увагі і нялёгкай працы карміцелька-зямля. Магчыма таму ў «Гаспадыні» няма часу займацца вялікай палітыкай, і на яе старонках не знойдзеце палітызаванай публіцыстыкі. Новы часопіс «вяртае» жанчыну ў сям'ю — туды, у чым яе спрадвечнае прызванне.

Адкрываецца першы нумар «Гаспадыні» благаславеннем мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяя Беларусі. З добрымі пажаданнямі да часопіса і яго чытачоў звярнуліся старшыня Саюза жанчын Рэспублікі Беларусь Тамара Дудко і народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Пра «характар» «Гаспадыні», яе планы на будучае расказвае прэзідэнт Асацыяцыі кулінараў Рэспублікі Беларусь Тадэвуш Крывеня. Аб вытоках высокай духоўнасці, чысціні чалавечых пачуццяў і ўзаемаадносін, ролі жанчыны ў сям'і шчыра і пранікнёна піша ў сваіх нататках славутая актрыса Купалаўскага тэатра, народная артыстка СССР Стэфанія Станюта.

Разнастайная цікавая і карысная інфармацыя змяшчаецца ў матэрыялах «7 правіл для садавода», «Вясеннія работы на пчальніку», «Народны каляндар», «Бюро даведак» і іншых.

А якая гаспадыня без руплівага, дбайнага гаспадара? Таму ў часопісе ёсць спецыяльны выпуск для мужчын: «Сам сабе майстар».

У вольную хвіліну «Гаспадыня» запрашае пасядзець разам з ёю «Ля каміна» — так называецца раздзел для сямейнага чытання. Яна абяцае цікавыя сустрэчы са славутымі людзьмі, вершы і навелы пра каханне, дасціпны гумар, красворды, казкі для дзяцей.

Застаецца дадаць, што часопіс багата ілюстраваны, будзе выходзіць штомесячна, матэрыялы ў ім друкуюцца на беларускай і рускай мовах.

**І. ВЕРАСКОЎ.**

## ДАГАВОР З КАТОЛІКАМІ

**ТАЛАЧЫН (Т. Махтадуй). З 1753 года ў горадзе дзейнічае Свята-Пакроўская царква. У гэтыя дні завяршаецца яе рамонт, які праводзіўся ў апошні раз вясной 1941 года. Усё зроблена на сродкі вернікаў.**

**У хуткім часе ў райцэнтры будзе дзейнічаць і касцёл. Веруючыя католікі, якія жывуць на тэрыторыі раёна і нават за яго межамі, звярнуліся ў райсавет з просьбай зарэгістраваць іх абшчыну, перадаць ёй касцёл, які зараз рэканструюецца пад музей. Гэтае пытанне было станоўча вырашана на чарговай сесіі райсавета.**

**Што датычыцца музея, то яго экспанаты плануюць размясціць у вялікай зале Дома Саветаў, дзе раней праводзіліся розныя мерапрыемствы былога райкома КПБ.**

## ТАЛІН І РЫГА: УСТАНОЎЛЕНЫ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ

**6 і 7 красавіка адбыліся візіты міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанкі ў Эстонскую і Латвійскую Рэспублікі.**

У Таліне беларускі міністр і намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Эстонія Эн Ліймете падпісалі пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж краінамі.

У Рызе П. Краўчанка і міністр унутраных спраў Латвіі Яніс Юрканс абмеркавалі пытанні двухбаковых сувязей і падпісалі пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін.

Латвійскі міністр атрымаў запрашэнне наведаць Мінск з афіцыяльным візітам у маі—чэрвені г. г., якое ён прыняў з удзячнасцю.

Бакі абмеркавалі выкананне гандлёва-эканамічнага пагаднення, падпісанага кіраўнікамі ўрадаў Беларусі і Латвіі ў пачатку года.

У саставе дэлегацыі знаходзіўся дырэктар беларускай марской кампаніі «Белфлот» М. Саўчанка, які абмеркаваў з эстонскімі і латвійскімі партнёрамі магчымасці выкарыстання марскіх портаў гэтых краін для атрымання грузаў, што паступаюць у Беларусь.

**Аддзел інфармацыі МЗС Беларусі.**

## ПАМЁР БАЦЬКА «ЛАМБАДЫ»

**У бальніцы амерыканскага горада Х'юстан (штат Тэхас) памёр ад лейкеміі 34-гадовы балівійскі музыкант Улісес Эрмоса — аўтар музыкі і вершаў, на аснове якіх была створана сусветна вядомая танцавальная песня «Ламбада».**

**У 1989 годзе Эрмоса выйграў судовы працэс, даказаўшы, што складзеная ім раней песня «Яна ідзе плачучы» была выкарыстана музычнай групай «Каома», якая складалася ў асноўным з бразільцаў, у якасці асновы для «Ламбады». Ён атрымаў тады ў выглядзе кампенсацыі мільён долараў.**

## ЁСЦЬ У БАБРУЙСКУ ДАРЫНЫ...

**Самымі распаўсюджанымі ў Бабруйску ў мінулым і пачатку гэтага года імёнамі сярод хлопчыкаў былі Аляксей, Сяргей, Максім, Яўген; дзяўчынак жа часцей за ўсё называлі Вольгамі, Таццянамі, Кацярынамі і Юлямі. Вярнуліся і сталі папулярнымі такія раней забытыя імёны, як Дар'я і Настасся. Ёсць нават і больш рэдкія — Эрнест, Сандра, Венера, Дарына. Затое перайшлі ў разрад рэдкіх папулярныя ў нядаўнім імёны Людміла і Святлана.**

**Як тут не ўспомніць старажытны месяцаслоў, згодна з якім і называлі нованароджаных. Якая разнастайнасць імёнаў была дзякуючы яму! Сёння нівеліруецца ўсё, нават чалавечае імя.**

# Наступны прыпынак—прастытуцыя

Гэтая гісторыя пачалася ў адзін з апошніх дзён сакавіка, калі на поўную моц пачалі грэць батарэі, па вуліцах забегалі заклапочаныя каты, а карэспандэнт «Звязды» ўбачыў у газеце «Вячэрні Мінск» невялічкую аб'яву наступнага зместу: «Знешнеэканамічная фірма «National and «M» аб'яўляе конкурс-набор фотамадэляў і манекеншчыц для работы ў рэкламных агенцтвах і вялікіх шоў-праграмах у краінах Заходняй Еўропы. Крытэрый адбору: рост—не ніжэй 170 см, для ўдзелу ў шоў-праграмах — танцавальная падрыхтоўка. У рамках конкурсу ўдзельніцы паяўляюцца на сцэне толькі ў ніжняй частцы купальніка. Тым, хто прайшоў яго, гарантуецца работа па кантрактах на лепшых пляцоўках Заходняй Еўропы». Далей былі ўказаны час правядзення і месца.

«Лепшыя пляцоўкі Заходняй Еўропы» зацікавілі «звяздоўца» як журналіста, а толькі ніжняя частка купальніка кранула за жывое як мужчыну, таму сваю прысутнасць на конкурсе-наборы карэспандэнт палічыў ужо вырашанай справай. Фантазія ўжо малявала персанажу (і адначасова аўтару) гэтага артыкула вялікую шыкоўную залу з добрай сцэнай, дзе пад цудоўную музыку прывабныя дзяўчаты дэманструюць сваю прывабнасць перад аўтарытэтнай камісіяй (пажадана, каб яна складалася не з адных пенсіянераў), якая аб'ектыўна адбірае сярод іх «самых-самых». Але рэчаіснасць значна разышлася з марамі і нанесла даволі адчувальны ўдар па майму юначаму аптымізму.

Прыйшоўшы ў пачатку красавіка па адрасу, указанаму ў аб'яве, я спачатку не паверыў сваім вачам, бо будынак аказаўся офісам вядомых беларускіх эстрадных выканаўцаў (аўтар наўмысна не называе іх прозвішчаў, бо вельмі іх паважае, і, як высветлілася, яны не маюць ніякага дачынення да манекеншчыц і танцоўшчыц). Прычым памяшканне знаходзілася, мякка кажучы, у стане актыўнага рамонту, таму інтэр'ер нагадваў будоўлю з вядомых кінакамедыйных «Прыгод Шурыка». Толькі два невялікія пакойчыкі гатовы былі прыняць будучых «зорак» «заходняга» шоў-бізнесу. Вакол будынка, у прадчуванні незвычайнага відовішча, групаваліся маладыя людзі інтэлігентнага выгляду. Гэта былі журналісты іншых рэспубліканскіх газет. Сярод іх вылучаліся прадстаўнікі выданняў, вузкая тэматыка якіх значна разыходзілася з тым мерапрыемствам, якое мелася адбыцца. Кідаліся ў вочы засяроджаныя твары двух фотакарэспандэнтаў, якія ўзялі з сабой «на заданне» лепшую плёнку, што прызапасілі калісьці спецыяльна для якога-небудзь свята. Выкінуўшы з галавы думкі аб залішняй «заклапочанасці» беларускага друку, я разам са сваімі калегамі нясмелым крокам рушыў у будынак.

Нас сустрэў гаспадар вышэйназванай знешнеэканамічнай фірмы — малады хударлявы чалавек, апрануты па апошняй модзе савецкіх бізнесменаў. Дарэчы, імя і прозвішча яго так і засталіся загадкай. Убачыўшы такую колькасць журналістаў, ён не разгубіўся і паведаміў, што фірма знаходзіцца ў Малдавіі і займаецца ў асноўным кінабізнесам, а манекеншчыцы і танцоўшчыцы з'яўляюцца «пабочнай галіной дзейнасці». Па словах «шэфа», ён ужо праводзіў падобныя конкурсы-адборы ў некалькіх гарадах СНД і нарэшце дабраўся да сталіцы Беларусі. Прысутнічаць на самім конкурсе-адборы малдаўскі камерсант не дазволіў, спасылаючыся на сарамлівасць дзяўчат, але аб найбольш важных дэталях справы журналісты даведаліся і так.

Фірма «Нэшнл энд М» рыхтуе дзяўчат быццам бы для работы (якое абцякальнае слова) на «лепшых пляцоўках» краін Заходняй Еўропы — Францыі, Германіі, Люксембурга і іншых «загніваючых дзяржаў». Але, улічваючы штодзённую зарплату ў 36—50 долараў (менавіта такія лічбы называў зацікаўленым мінчанкам малдаўскі зазывала), у ролі «лепшых пляцовак» будуць выступаць залы другарадных рэстаранаў, а калі мець на ўвазе, што рабочы дзень працягваецца з 10 гадзін вечара да чатырох раніцы, месцамі выступленняў наогул могуць стаць установы з падазронай рэпутацыяй. Нездарма ў аб'яве была пікантная фраза «толькі ў ніжняй частцы купальніка». Гэта нішто іншае, як шырока распаўсюджаны на Захадзе «топлес» — від стрыптызу, у якім удзельніцы пад музыку распранаюцца не зусім, а толькі напалову (як кажуць у арміі, да «голага торсу»). Кантракт з дзяўчатамі заключаецца на паўгода, і ўмовы яго вельмі жорсткія. Па словах гаспадара «Нэшнл энд М» жорсткасць заключаецца ў выкананні распарадку дня, добрых паводзінах і поўным падпарадкаванні свайму кіраўніку. Інакш у замежным пашпарце з'яўляецца чорная пячатка, якая сведчыць аб тым, што ваша знаходжанне ў гэтай краіне яе ўрад лічыць немэтазгодным. Прыкладна ў такіх адносінах знаходзіцца прастытутка са сваім сутэнёрам, які трымае «жрыцу кахання» ў жорсткім паслушэнстве. Апрацаваўшы такімі страхоццямі дзесятка паўтара дзяўчынак (прыкладна столькі прыйшло на конкурс-адбор), бізнесмен нават міласціва дазволіў, каб рост прэтэндэнтак быў менш за 170 сантыметраў, і паабяцаў, што, калі яны не ўмеюць рабіць «шпагат», ён іх навучыць.

А што ж дзяўчаты? Кожная з іх напэўна марыла аб лёсе казачнай Папялушкі, а ў цяперашніх умовах Папялушка можа стаць прынцэсай толькі з дапамогай валюты. Долараваяя заслона з «шыкоўным» жыццём у еўрапейскіх краінах засланіла вочы маладым мінчанкам, і іх не насцярожыла ні аплата «працы», ні «начная змена», ні нават тое, што спачатку ім прыйдзецца пэўны час даказваць сваю «маральную ўстойлівасць» у дзяржавах былога сацыялістычнага лагера. Дарэчы, малдаўскі бос недвухсэнсоўна адзначыў, што калі вельмі старацца, то можна зарабляць да 100 долараў за дзень. Дай Божа, каб такое «старанне» абмежавалася толькі ўскрайкамі сцэны.

Памятаеце, як у мінулым годзе вядомая газета «Московский комсомолец» на сваім фестывалі арганізавала конкурс на лепшыя грудзі, дзе прысутнічалі замежныя госці? Не дзіўна, што потым удзельніцы таго конкурсу аб'явіліся ў пікантных «установах» еўрапейскіх краін, а заходні друк падняў шум аб тым, што Расія (маецца на ўвазе СНД) становіцца пастаўшчыкам «тавару» ў публічныя дамы і падобныя «канторы» замежжа. Прыгадайце: матыў «голых грудзей» існуе і ў нашай гісторыі. Так што Беларусь таксама ўключаецца ў кагорту краін «трэцяга свету», якія акрамя таннай рабочай сілы прапануюць не менш танную (і, дарэчы, неабмежаваную, улічваючы «саўковую» цягу да валюты) армію працаўнікоў сексуальнага фронту. І гэта, прабачце за каламбур, не галаслоўнае сцвярджэнне. Бо самага галоўнага камерсант з «Нэшнл энд М» мінскім шукальніцам шчасця так і не сказаў. А справа ў тым, што, як ён паведаміў, задача фірмы — вывезці дзяўчат за мяжу, а ўжо там яны будуць практычна бескантрольна эксплуатавацца замежнымі калегамі па бізнесу. І ніхто, нават іх бацькі, не даведаецца, на сцэне, на панелі, ці яшчэ дзе, зарабляюць яны жаданую валюту. А страх перад чорнай пячаткай у замежным пашпарце можа аказацца мацнейшым за сумленне і дзявочы гонар.

Фірма «Нэшнл энд М» адабрала ў Мінску некалькі дзяўчат. Зараз яны будуць афармляць замежныя пашпарты, потым паедуць у Малдавію, а адтуль — у былыя сацыялістычныя краіны «на стажыроўку» і «праверку маральных якасцей». Але я гэтага ўжо не ўбачу. Я буду сядзець дома без адзінага долара ў кішэні і шкадаваць аб тым, што на Беларусі стала на дзесятак менш прывабных, цудоўных, даўгаsuccessfully ногіх дзяўчат, якіх малдаўскі (таксама замежны) камерсант адправіў для ўцехі заходнееўрапейскіх «аматараў», што засумавалі па экзатычнай «клубнічцы». Не, я зусім не ханжа. Я проста баюся таго, што Беларусь стане «кузняй кадраў» для заходняга парнабізнесу.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** Міністры замежных спраў Малдовы, Расіі, Украіны і Румыніі абмяркоўваюць у Кішынёве пытанне аб спыненні баёў у Прыднястроўі. Насельніцтва гэтага рэгіёна, якое складаецца ў асноўным з рускіх і украінцаў, змагаецца за аддзяленне Прыднястроўя, ужо аб'яўленага у аднабаковым парадку незалежным, і супраць далучэння да Румыніі.**

* У Карлсруэ (ФРГ) па падазрэнню ў шпіянажы на карысць расійскай разведкі арыштаваны супрацоўнік філіяла амерыканскага пасольства і былы старшы лейтэнант міністэрства дзяржаўнай бяспекі. Паводле паведамлення федэральнай пракуратуры Германіі, яшчэ ў пятніцу быў выдадзены ордэр на іх арышт. У такой жа сувязі ў канцы сакавіка быў арыштаваны былы маёр «штазі».

*** Прэзідэнт ФРГ Рыхард фон Вайцзэкер прапанаваў Кыргызстану заходнегерманскае партнёрства і кансультацыі. У час прыёму прэзідэнта Кыргызстана Аскара Акаева Вайцзэкер нагадаў яму пра пражываючых у Кыргызстане 70 тысяч грамадзян нямецкай нацыі. ФРГ хоча ўнесці свой уклад у забеспячэнне іх добрай будучыні.**

* Указ аб неадкладным фарміраванні ўласных войск падпісаў прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук. Цяпер усе войскі, што знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, падпарадкоўваюцца міністэрству абароны Украіны. На базе Чарнаморскага флоту, які знаходзіцца на тэрыторыі рэспублікі, прадугледжваецца стварыць ваенна-марскія сілы Украіны.

*** Лідэр украінскага «Руху» Вячаслаў Чарнавіл пакінуў пост старшыні Львоўскага савета народных дэпутатаў. Чарнавіл заявіў, што будзе імкнуцца стварыць сапраўдны апазіцыйны рух на Украіне.**

### «БІ-БІ-СІ»

* Дванаццаць дзяржаў Еўрапейскай супольнасці на пасяджэнні міністраў замежных спраў у Люксембургу прыйшлі да калектыўнага пагаднення аб прызнанні незалежнасці былой югаслаўскай рэспублікі Боснія і Герцагавіна. Не было, аднак, зроблена ніякіх захадаў адносна дыпламатычнага прызнання другой рэспублікі — Македоніі.

*** Былы палітзняволены Петэр Абноры прызначаны спікерам албанскага парламента. Абноры — дэпутат ад дэмакратычнай партыі, якая атрымала перамогу на выбарах у мінулым месяцы. Ён правёў 22 гады ў турме пры камуністычным рэжыме.**

* У Сараеве зноў аднавіліся жорсткія баі. Прадстаўнікі арміі і прэзідэнт Босніі і Герцагавіны заклікалі да спынення агню.

*** У Паўднёвым Ліване зроблена нападзенне на ізраільскую ваенную калону. Адзін салдат забіты, некалькі — паранена.**

* Прэзідэнт Перу Альберта Фуджыморы распусціў кангрэс і прыпыніў дзеянне канстытуцыі ў краіне. Кіраўніцтва краінай будзе ажыццяўляцца праз дэкрэты савета міністраў да таго часу, пакуль усеагульным галасаваннем не будзе зацверджана новая парламенцкая структура. Ваенныя прызналі рашэнне прэзідэнта, аднак лідэры кангрэса назвалі гэта пераваротам. У сталіцы Перу Ліме ажыццяўляецца ўзброенае патруляванне. Некаторыя вядомыя палітычныя дзеячы, у тым ліку былы прэзідэнт Гарсіа, знаходзяцца пад хатнім арыштам. Войскі занялі штаб-кватэры палітычных партый і інфармацыйных агенцтваў.

*** У Нью-Йорку ва ўзросце 72 гады памёр выдатны пісьменнік-фантаст Айзік Азімаў. Азімаў нарадзіўся ў Расіі, аднак пераехаў разам з сям'ёй ў ЗША, калі яму было тры гады. На працягу сваёй больш чым пяцідзесяцігадовай літаратурнай кар'еры ён напісаў каля 500 кніг.**

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* Віцэ-прэзідэнт Расіі Аляксандр Руцкой прапанаваў разгарнуць размешчаную ў Рэспубліцы Малдова 14-ю армію і стварыць на яе аснове буферную зону паміж варагуючымі бакамі. Выступаючы на з'ездзе народных дэпутатаў Расійскай Федэрацыі, Руцкой заначыў, што на малдаўскай тэрыторыі пражываюць сем'і 10 тысяч ваеннаслужачых СНД. Канфлікты будуць працягвацца, падкрэсліў ён, пакуль Расія не забяспечыць бяспеку сваіх грамадзян у месцах іх пражывання.

*** Намеснік міністра эканомікі і гандлю Расіі Грыгор'еў, які ўзначальвае камітэт па замежных інвестыцыях, заявіў, што расійскі ўрад створыць ільготныя ўмовы тым замежным грамадзянам, якія пагадзяцца інвесціраваць не менш аднаго мільёна амерыканскіх долараў у праекты на тэрыторыі Расіі. Грыгор'еў указаў, што асобы, якія пагадзяцца на гэта, будуць вызвалены ад падаткаў на працяглы час.**

* Парламент Азербайджана прыняў адстаўку ўрада рэспублікі. Аднак старшыня Вярхоўнага Савета Мамедаў даручыў кабінету міністраў часова выконваць ажыццяўленне сваіх паўнамоцтваў. Вызвалены ад абавязкаў прэм'ер-міністра Гасанаў назначаны пастаянным прадстаўніком Азербайджана ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

*** Нямецкае аддзяленне Міжнароднага супольніцтва па правах чалавека звярнулася да міністра замежных спраў Ганса-Дзітрыха Геншэра з заклікам узняць пытанне аб парушэнні правоў чалавека ў Грузіі ў час яго паездкі па рэспубліках былога Саюза ССР. Паездка Геншэра павінна адбыцца ў гэтым месяцы. У заяве ўказваецца, што з Грузіі паступаюць звесткі аб росце колькасці палітычных зняволеных, уключаючы членаў парламента, рэпрэсіраваных па загадах ваенных і Дзяржаўнага савета Грузіі. У ліку зняволеных — Заур Кабалія, старшыня Грузінскага нацыянальнага камітэта па правах чалавека.**

* Група інспектараў ААН накіравалася ўчора ў Ірак, каб прысутнічаць на ліквідацыі прамысловага комплексу Аль-Ацір. ААН мяркуе, што на гэтым комплексе распрацоўвалася ядзерная зброя. Па словах кіраўніка групы Перыкоса, Ірак атрымаў спіс корпусаў і ўстановак, якія павінны быць знішчаны, але яшчэ не даў канчатковай згоды на гэту акцыю. Другая група інспектараў ААН ужо знаходзіцца ў Іраку. Яна сочыць за знішчэннем хімічнай зброі.

*** Іран выказаў пратэст у сувязі з нападзеннямі на ягоныя пасольствы ў Еўропе, Паўночнай Амерыцы і Аўстраліі. Гэтыя нападзенні адбыліся пасля бамбардзіроўкі іранскімі самалётамі базы іранскіх паўстанцаў на тэрыторыі Ірака.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

# ЗАМЕЖЖА

## ЗЛАЧЫННЫ БІЗНЕС

**Гандаль дзецьмі застаецца адной з самых даходных артыкулаў нелегальнага экспарту Лацінскай Амерыкі. «Рэкардсменам» па злачыннаму бізнесу з'яўляецца Аргенціна. За апошнія гады з гэтай паўднёваамерыканскай краіны ў ЗША і Еўропу былі нелегальна вывезены 40 тысяч дзяцей. Ахвярамі дзялкоў, як правіла, становяцца шматдзетныя бацькі, якія не ў стане пракарміць чарговае дзіця. Але ёсць і іншая крыніца даходаў — вельмі часта дзяцей проста выкрадаюць. Потым трымаюць на падпольных кватэрах, адкуль іх, іншы раз па фіктыўных дакументах, прадаюць новым бацькам, звычайна багатым грамадзянам ЗША, Нідэрландаў, ФРГ. Кошт кожнага дзіцяці вагаецца ў залежнасці ад расы, колеру скуры і полу.**

**НА ЗДЫМКУ: у амерыканкі Шылбі Рывард з Ілінойса цяпер ёсць дачка, купленая ў грамадзянкі Аргенціны, якая не мае магчымасці выгадаваць дзяўчынку.**

## ХАМЕЛЕОНЫ-«ЧАРАДЗЕІ»

**ЛУАНДА. У поле зроку спекулянтаў афрыканскай фаўнай трапілі ангольскія хамелеоны. На «чорным рынку» Луанды цана на іх дасягае 200 тысяч новых кванз (больш як 100 долараў).**

**Спецыялісты са сталічнага універсітэта імя Агасціньо Нета, піша газета «Тэра Ангалана», выказалі меркаванне, што нездаровую цікавасць да хамелеонаў маглі таксама выклікаць чуткі аб іх цудадзейных уласцівасцях: яшчаркі нібыта валодаюць чарамі, могуць павышаць палавую актыўнасць і нават вылечваць ад СНІДа.**

## НЕ СЯЧЫЦЕ, МУЖЫКІ, НЕ СЯЧЫЦЕ...

ДЭЛІ. У Шры-Ланцы ўстаноўлена больш жорсткае пакаранне за высечку лесу без афіцыяльнага дазволу. З гэтага часу таму, хто парушыць артыкул закона, пагражае ад 2 да 10 гадоў турмы, грашовы штраф ад 100 тысяч да 500 тысяч ланкійскіх рупій (2,5—12,5 тысячы долараў), а таксама канфіскацыя прылад злачынства — аўтамашын для вывазу лесу, сякер, піл. Такія строгасці тлумачацца катастрафічным становішчам з «зялёным» покрывам вострава.

## СУПРАЦЬ МУЖЧЫНСКАЙ МАНАПОЛІІ

ЛАГАС. Сям'я спорту не перашкода, лічыць маці траіх дзяцей з Нігерыі Джой Эцім. Яна вырашыла стаць... прафесіянальным трэнерам па футболу! Д. Эцім, якая гуляла ў мінулым за аматарскія жаночыя каманды, цяпер паступіла на курсы пры нацыянальным інстытуце спорту ў Лагасе. «Я хачу пакласці канец манаполіі мужчын у падрыхтоўцы жаночых футбольных каманд», — заявіла яна ў аўторак карэспандэнту інфармацыйнага агенцтва Нігерыі.

## ГАНДЛЯРЫ ЛЮДСКІМ ДАВЕРАМ

ВАРШАВА. Ліпавыя фірмы па «працаўладкаванню» палякаў на Захадзе падманулі ў гэтым годзе ўжо больш як 3 тысячы сваіх суграмадзян. Аб гэтым расказаў на старонках газеты «Кур'ер польскі» старшы камісар галоўнай камендатуры паліцыі РП Ежы Гаўляк. Паводле яго слоў, такія фальшывыя бюро па аказанню «дапамогі» жадаючым хутка разбагацець, разлічаныя на прасцячкоў, дзейнічаюць па ўсёй краіне. Як сведчыць польская паліцыя, за мінулы год яны зарабілі ўжо больш як 10 мільярдаў злотых (каля 95 тысяч долараў ЗША).

У апошні час у сілкі мясцовых махляроў усё часцей сталі трапляць грамадзяне з рэспублік былога Савецкага Саюза. «Яны таксама хочуць уладкавацца на Захадзе і хутка разбагацець. Нядаўна мы раскрылі такую «фірму» ў Беластоку. Сярод пацярпеўшых — 82 грамадзяніны з Літвы, Беларусі, Украіны і Грузіі», — сказаў у заключэнне камісар польскай паліцыі.

## МОСТ ЗА ДОЛАР

**НЬЮ-ЙОРК. Мэр Нью-Йорка Дэвід Дзінкінс прапануе прадаць Бруклінскі мост.**

**У 109-ю гадавіну заканчэння будаўніцтва моста (24 мая гэтага года), паведамляе прэс-рэліз, надрукаваны на афіцыяльным бланку гарадскога савета і завераны факсімільным подпісам кіраўніка гарадской адміністрацыі, прапануецца арганізаваць спецыяльную латарэю. Купіўшы ўсяго за 1 долар білет, выпушчаны ў форме «купчай», любы жыхар або госць горада атрымлівае шанц на 5 гадоў стаць уладальнікам Бруклінскага моста і прысвоіць яму сваё імя. На працягу года арганізатары данага праекта разлічваюць сабраць 75 мільёнаў долараў, неабходных для рамонту гэтага унікальнага інжынернага збудавання.**

**Стомлены адказамі на няспынныя тэлефонныя званкі, прадстаўнік гарсавета па сувязях з грамадскасцю растлумачыў, што размова ідзе... аб першакрасавіцкім жарце.**

**У АБ'ЕКТЫВЕ — АФРЫКА**

**НА ЗДЫМКУ: танзанійскі фермер. Гаспадаркі, якія знаходзяцца ў асабістым валоданні, яшчэ спадзяюцца атрымаць дапамогу ад урада і міжнародных арганізацый, каб нарэшце пазбавіцца жабрацкага існавання.**

*Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў і друку.*

